www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

№ 75 (4327)

21 верасня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

СКАЗАНА!

Андрэй ДАПКЮНАС, намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь:



## «БНР – частка нашай гісторыі»

У Мінску адбылося чарговае пасяджэнне Кансультацыйнай рады беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў. Раду ўзначальвае кіраўнік ведамства Уладзімір Макей, але на гэты раз адкрываў сустрэчу беларусаў замежжа яго намеснік Андрэй Дапкюнас (міністр браў удзел у перамовах Аляксандра Лукашэнкі з кітайскай дэлегацыяй).

*«Духоўная повязь, сувязь культур, яна не страчваецца,* – падкрэсліў А.Дапкюнас. – *І нават калі чалавек не грамадзянін Рэспублікі Беларусь, але мае беларускія карані, то ён можа шмат зрабіць для ўмацавання іміджу Беларусі. Асабліва важна, каб гэтыя людзі папрацавалі яшчэ і на фарміраванне сучаснай эканомікі. Бо менавіта сучасная эканоміка – гэта і ёсць найлепшы падмурак дабрабыту беларусаў».*

Паводле слоў Уладзіміра Глода з Радыё Свабода, журналісты, скарыстаўшыся магчымасцю, запыталіся ў Андрэя Дапкюнаса пра яго стаўленне да таго, што ў Мінску да гэтага часу не павесілі памятную шыльду на будынку, дзе абвяшчалася незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, нягледзячы на абяцанні сталічных улад зрабіць гэта яшчэ ў сакавіку.

*«Як грамадзянін Беларусі лічу, што гісторыя маёй краіны ёсць такая, якой яна склалася за шмат стагоддзяў,* – адказаў намеснік міністра, адзначыўшы, што ў яго кампетэнцыю гэтае пытанне не ўваходзіць. – *Але гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі – гэта таксама частка нашай гісторыі. Выкінуць гісторыю БНР з агульнага працэсу проста нельга».*

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА



## З чым вернецца Аляксандр Лукашэнка з Сочы?

Працягваецца рабочы візіт у Расійскую Федэрацыю прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Ёсць інфармацыя, што сёння ў Сочы адбудуцца перамовы на найвышэйшым узроўні з удзелам членаў урадаў дзвюх краін. Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін таксама правядуць двухбаковую сустрэчу ў фармаце сам-насам.

Што і казаць, дыялог можа быць гарачым: пытанні, якія патрабуюць неадкладнага разгляду, тычацца многіх сфер жыцця расіян і беларусаў. Таму галоўнае, каб Аляксандр Лукашэнка не вярнуўся ў Мінск, як кажуць, з пустымі рукамі.

АФІЦЫЙНА

## «Наркатычны» 328-ы артыкул стане больш лаяльным

Як заявіў учора прадстаўнік Генеральнай пракуратуры, па ч.2 і ч.3 арт.328 КК будзе зніжана мінімальнае пакаранне – на два гады.

Так, у артыкуле 328, частках 2 і 3 будзе зніжана ніжняя мяжа пакарання. Калі па ч.2 было ад 5 гадоў, то будзе ад 3 гадоў. Калі па ч.3 было ад 8 гадоў, то будзе ад 6 гадоў.

Законапраект мяркуецца вынесці на разгляд парламента ў самы бліжэйшы час.

СУПРАЦЬСТАЯННЕ

## Абаронцы Курапат пойдуць па кватэрах

Нагадаем, што ўжо больш за тры месяцы працягваецца пікетаванне рэстарана «Поедем, поедим» каля мемарыяла ахвяр-рам сталінскіх рэпрэсій у Курапатах. Пратэстоўцы патрабуюць закрыцця гэтай забаўляльнай установы, але рэстаран пакуль працягвае работу.

*«Варта будзе стаяць як мінімум да Дзядоў,* – кажа палітык **Павел Севярынец**, які за абарону Курапатаў ужо адседзеў тры разы па 10 сутак адміністрацыйнага арышту. – *На наступным тыдні пачнём абыход кватэр на бліжэйшай да Курапатаў вуліцы Мірашнічэнкі. Будзем распавядаць людзям пра сітуацыю, збіраць подпісы супраць работы рэстарана. Дарэчы, адправім адпаведны ліст і новаму прэм'ер-міністру Беларусі Сяргею Румасу, пад якім паставілі ўжо подпісы больш за 200 чалавек».*

Павел Севярынец дадаў, што *«агулам актывісты ўжо маюць больш за 100 сутак адміністрацыйнага арышту. Акрамя таго, людзям выпісваюць вялікія штрафы, і тут нават складана падлічыць агульную суму».*

**Віктар ШПАК.**

ФАКТ

## Беларусы не зацікаўлены назапашваць на пенсію

У Беларусі працуюць 4,3 мільёна чалавек. І толькі ўсяго 141,1 тысяча беларусаў, паводле дадзеных Мінфіна, на 1 студзеня 2018 года была застрахавана па добраахвотным страхаванні дадатковай пенсіі. Прычым значная большасць застрахавана працадаўцамі па калектыўных дагаворах – гэта 90,6%, або 127,8 тысячы чалавек. Самастойна толькі 13,3 тысячы чалавек вырашылі дадаткова назапашваць на сваю пенсію.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СІТУАЦЫЯ

## Чаму Ігар Комлік не можа прыцягнуць да адказнасці паклёпніка?

Нагадаем, што 24 жніўня 2018 года ў дачыненні да старшыні прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** і галоўнага бухгалтара прафсаюза **Ігара Комліка** быў вынесены абвінаваўчы прысуд, які прадугледжвае адказнасць за ўхіленне ад выплаты сум падаткаў, зборыў у асабліва буйным памеры.

У той жа час Ігар Комлік абураецца, што не можа прыцягнуць да адказнасці чалавека, які напісаў на яго паклёпніцкі артыкул.

*«Яшчэ не пачаўся судовы працэс, а на адным з сайтаў з'явіўся артыкул «Фиктивный РЭП Федынича»,* – кажа ён. – *Звярнуўся ў пракуратуру Цэнтральнага раёна Мінска з заявай, каб аўтара прыцягнулі да крымінальнай адказнасці. У матэрыяле распавядалася, як мы са старшынёй прафсаюза РЭП быццам бы прысвойвалі грошы, куплялі сабе за іх машыны і маёмасць. Гэта ж абвінавачанне ў крымінальным злачынстве! Але ж на судзе да нас такі артыкул не прымянілі і не маглі прымяніць, бо гэта поўная лухта. Чалавек альбо па ўласнай ініцыятыве вырашыў пафантазіраваць, альбо яму загадалі гэта зрабіць людзі з іншых структур. Натуральна, нікога да адказнасці не прыцягнулі...»*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



АСОБА

Валянцін СТЭФАНОВІЧ:

## «Ніколі строем не хадзіў...»

*Вядомы праваабаронца распавёў «Народнай Волі» пра свой «маленькі юбілей», цікавыя і сумныя гісторыі яго праваабарончай дзейнасці і пра тое, ці складана быць шматдзетным бацькам.*

20 гадоў таму праваабарончы цэнтр «Вясна», які затым быў пазбаўлены ўладамі рэгістрацыі, адкрыў у Мінску свой офіс. Прыкладна ў той жа час пачаў праваабарончую дзейнасць і **Валянцін СТЭФАНОВІЧ**, якому сёння ёсць што ўспомніць...

**– Кажуць, што праваабаронцамі не становяцца, а нараджаюцца. Ведаю, што ў гэтым плане на вас паўплывала школа...**

– 1980-я гады – гэта былі вельмі цікавыя часы. Перабудова, разбурэнне камуністычнай ідэалагічнай сістэмы. Мы, тагачасныя падлеткі, досыць цынічна ставіліся да таго, што тычылася ўсяго савецкага, бо не верылі больш у камуністычныя догмы і адкрыта здзекаваліся з савецкіх «святынь». Памятаю, піянерскія гальштукі не насілі ўжо ў 1986 годзе, хаця і бегалі пазычаць іх у суседні клас перад урокам беларускай мовы і літаратуры, якую выкладала завуч па выхаваўчай рабоце. Я слухаў «Кино», «ДДТ» і «Алису», у 1987 годзе на прапанову ўступіць у камсамол адказаў сваёдомай адмовай.

З-за сваёй знешнасці (насіў доўгія валасы) меў канфлікты з дырэктарам школы, якая выганяла мяне з установы выключна з-за гэтага і нежадання насіць школьную форму. А завушніца ў вуху для яе і наогул была ледзь не крыміналам.

Хто ведае, можа, тая дырэктар школы і зрабіла з мяне праваабаронцу? Прынамсі, з тых часоў я не люблю афіцыёзную хлусню і ідэалагічныя прамыўкі мазгоў. Ніколі строем не хадзіў і заўсёды стараюся рабіць так, як разумею гэта я. Тады маімі куміры былі Рэмарк, Джон Ленан і Віктар Цой, а не Карчагін ці Матросаў. І ўжо дакладна не хацеў быць касманаўтам.

**– Самі выбралі юрыдычны факультэт ці нехта параіў?**



– Мае бацькі, якія скончылі архітэктурны тэхнікум, хацелі, каб я паўтарыў іх шлях і паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут на архітэктуру ці аддзяленне прамыслова-грамадзянскага будаўніцтва. Але я быў гуманітарыем, мне цяжка даваліся дакладныя навукі. І пасля арміі вырашыў паспрабаваць сябе ў юрыспрудэнцыі і выбраў спецыяльнасць «Правазнаўства. Адвакатура і натарыят». У выніку скончыў універсітэт з чырвоным дыпломам і жаданнем стаць адвакатам. Іншая справа, што прафесійна рэалізавацца ў той час з маімі поглядамі было складана.

**– Чаму?**

– Пасля сумнўнага рэферэндуму 1995 года і публічнага ганьбавання нацыянальнага сцяга на даху Дому ўрада я вырашыў, што працаваць у дзяржаўных структурах я не змагу. Хаця раней праходзіў практыку ў пракуратуры, мег магчымасць паглядзець, як дзяржаўная сістэма працуе.

Я пайшоў іншым шляхам. Браў актыўны ўдзел у акцыях «Мінскай вясны» 1996 года, удзельнічаў у стварэнні структур «Маладога фронту», у сакавіку 1997 года ўпершыню быў затрыманы на акцыі пратэсту і адбываў 5 сутак адміністрацыйнага арышту. Адным словам, цягнула мяне ў іншы бок.

**– У той час і пазнаёміліся з Алесем Бяляцкім, які стаў кіраўніком «Вясны»?**

– Напачатку пасля атрымання дыплома мне прапанавалі пасаду юрыста на Мінскім падшыпнікавым заводзе. У пэўны момант сітуацыя склалася так, што з'явілася непаразуменні з кіраўніцтвам «Маладога фронту», я выйшаў з арганізацыі. А трэба было неяк існаваць, атрымліваць заробак... І я вырашыў, што буду жыць як звычайны абывацель – раніцай прыйшоў на завод, у пяць вечара пайшоў дахаты.

Але доўга на заводзе не працягнуў, усё роўна хацелася займацца грамадскай дзейнасцю.

Летам 1998 года Алесь Бяляцкі прапанаваў мне далучыцца да «Вясны». Не адразу пагадзіўся, бо трэба было звольніцца з афіцыйнай працы. Ды тады я добра і не разумеў, што такое праваабарончая дзейнасць. Таму ўзяў паўзу, каб абдумаць прапанову. Але, напэўна, вырашальнай стала фраза, якую сказаў Алесь: «Валік, ты – юрыст, а значыць, павінен дапамагаць людзям, якія трапілі ў бяду, а не працаваць штаны ў заводскім кабінеце».

**– Выбар зрабілі на карысць «Вясны»?**

– З 1 верасня я працаваў ужо там. І гэтая дата якраз супала з пачаткам прафесійнай дзейнасці арганізацыі, якая тады мела назву ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна-96». Гэта была афіцыйна зарэгістраваная Мінская гарадская арганізацыя, у офісе адкрылася грамадская прыёмная, дзе я і працаваў. Прымалі людзей з рознымі праблемамі, дапамагалі пісаць скаргі, выступалі на працэсах як грамадскія абаронцы (тады гэта дазвалялася законам). Памятаю, выступалі абаронцамі нават у крымінальных працэсах. Напрыклад, дапамагалі апраўдаць Уладзіміра Плешчанку, якога абвінавачвалі ў тым, што ён у Віцебску скраў бюст Суворава.

Дарэчы, ужо тады мы спрабавалі выкарыстоўваць для абароны правоў чалавека міжнародныя механізмы. Памятаю, першы агляд сітуацыі з правамі чалавека пісалі паводле матываў справаздачы ўрада ў Камітэт па правах чалавека ААН. Рыхтавалі даклады ў Камітэт ААН супраць катаванняў. І, натуральна, адной з задач была рэгістрацыя рэспубліканскага аб'яднання. У законе было напісана, што на працягу месяца павінна ўсё вырашыцца, але «Вясна» рэгістравалася аж 9 месяцаў! Нашы дакументы проста ляжалі ў Міністэрстве юстыцыі, хаця, у рэшце рэшт, дачакаліся і рэгістрацыі.

**– Ці цікава вам было працаваць?**

– Вельмі цікава, таму што тое, чаму вучылі ва ўніверсітэце, гэта адно, а штодзённая практыка – зусім іншае. Трэба было пастаянна вучыцца, павышаць кваліфікацыю. Мы шмат чаго не ведалі ды і перад намі нікога не было, у каго можна было б павучыцца праваабарончай дзейнасці. Таму ў пэўным сэнсе мы з нашымі калегамі былі першапраходцамі. Дарэчы, можна сказаць, што ўлада сама нарадзіла праваабарончыя арганізацыі, бо ў іх з'явілася патрэба з-за сітуацыі ў краіне.

У 1998 годзе мы ўпершыню сутыкнуліся з тэмай смяротнага пакарання, я пачынаю разумець, што гэта за з'ява. У мяне доўгі час ляжала на стале чорная папка з лістамі расстраляных людзей. Яны пісалі нам з камер смяротнікаў, нелегальна перадавалі гэтую інфармацыю. А на пачатку 1990-х колькасць смяротных прысудаў проста зашкальвала! Пік прыйшоўся на 1997–1998 гады – штогод расстрэльвалі па 40–45 чалавек! Я і да гэтага часу не магу адназначна сцвярджаць, што ўсе гэтыя людзі былі на сто працэнтаў вінаватымі.

У свой час было гучнае забойства старшыні Дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Міхалуцкага, па справе праходзіла некалькі чалавек. Аднаго з іх, у тым ліку дзякуючы і нашым намаганням, вызвалілі ад адказнасці. Пасля гэтага да нас прыйшла ў офіс яго маці і сказала: «Вы выратавалі майму сыну жыццё!» А чалавека маглі б тады і расстраляць. І сёння ўсе 6 лічылі, што ён быў вінаваты.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Грустная статистика

Сухие данные официальной статистики. С 1995-го по 2018 год население Беларуси уменьшилось на 719.618 человек: с 10.210.403 до 9.491.823. Численность населения в трудоспособном возрасте сократилась на 233.585 человек: с 5.664.932 до 5.431.347. Население моложе 16 лет – на 719.618 человек, а старше трудоспособного возраста – наоборот увеличилось на 234.623 человека. Пенсионеров в стране почти на 325 тысяч больше, чем людей старше трудоспособного возраста. При этом пенсионных льготников примерно столько же, сколько всего жителей в областном центре Бресте. Богатая страна? Но с грустной статистикой. Если не сказать жестче: со статистикой грядущей демографической катастрофы.

В экономике Беларуси, по данным Белстата, в июле 2018 года было занято 4 млн 332 тысячи человек. В 2008 году этот показатель составлял 4 млн 610 тысяч трудозанятых. Значит, экономика страны за 10 лет потеряла целых 278 тысяч человек. И все эти потери явно не по причине бурного роста производительности труда. Казус в том, что за эти годы неуклонно снижалась численность официально зарегистрированных безработных! 10 лет назад их было 37,7 тысячи человек, а на конец июля Министерство труда и соцзащиты насчитало 16,6 тысячи бедолаг, или 0,4% от численности рабочей силы. Куда до нас какой-то Германии с ее 7–8% неустроенных! Не говоря уж об Испании или Италии.

Куда же пропадают люди, которые исчезли из экономики страны, если не считать, конечно, тех, кто ушел на пенсию и в мир иной?

Рабочая сила на начало 2018 года составляла 4.350.800 человек. Разница между трудоспособным населением и официально работающими в экономике – в 1.080.547 человек. Где этот миллион белорусов? Его нет в белорусской экономике, как нет и среди безработных. Он не фигурирует в статистике трудовой миграции. Согласно ей, у нас за рубеж выехало на работу порядка 80 тысяч человек. Отбросив всех домохозяек и других, не работающих по естественным причинам, власти сначала вели речь о 500 тысячах «тунеядцев», потом о 400 тысячах, чтобы объяснить появление известного декрета.

По методике Международной организации труда (МОТ) официальная статистика дает нам иные, более реальные цифры. В начале года безработных было 293,4 тысячи человек, среди них – 104 тысячи женщин. Среди безработных женщин больше всего тех, у кого среднее специальное и высшее образование, среди мужчин много с техническим и общим средним образованием. Чаще всего белорусы пытаются трудоустроиться через газеты, сайты и знакомых. Реже – через службы занятости, поскольку пособие по безработице в Беларуси, как известно, издевательски мизерное, а поднять его хотя бы до уровня бюджета прожиточного минимума власти отказываются. Вот эти смешные 0,4% безработных, которые регистрируются в службах занятости, и фиксирует Минтруда, показывая МОТ, что мы гордимся общественным строем.

Минтруда гордо отмечает, что только за год число безработных уменьшилось почти вдвое. Надо же было выполнять установку президента, чтобы трудоспособных людей без работы к маю вообще не было. И отчитались: мол, если и остались такие, то вакансий было предложено куда больше. Но какие это вакансии? Это никак не высокотехнологичные рабочие места, или места с такими зарплатами, что на них сразу клюнули бы те, кто выбирал-перевыбирал и наконец поймал птицу счастья. А в основном места с зарплатой на уровне минимальной, с тяжелой малоквалифицированной работой. Не станем отрицать, что свой вклад в трудоустройство выкинутых работодателями на улицу людей внесли комиссии по содействию занятости, сумевшие поддержать потерявших надежду людей. Если мы возьмем последние годы деятельности многих предприятий Беларуси, особенно на периферии, то увидим ужасающую статистику сокращения их персонала. Ее и показывают как раз предприятия того же Оршанского района, в том числе и те, которые инспектировал глава государства.

Никто не знает реальной статистики по выезду белорусов в поисках работы за рубеж. Большинство из них делает это нелегально или полулегально. Поэтому приблизительные экспертные оценки тут разные. Когда в России были высокие заработки, раза в два выше, чем в Беларуси, число белорусских гастарбайтеров оценивалось примерно в 800 тысяч человек. Сейчас все больше наших соотечественников ищут счастья в Польше и Литве. Чего ж вы хотите, если средние зарплаты у наших соседей раза в три выше белорусских. На заборах, ограждающих польские стройки, висят объявления: мол, ждем желающих на работу с зарплатой от 4000 злотых и выше (1 доллар – 3,7 злотого). Это знает и видит белорусская молодежь.

Видимо, пропавший миллион трудоспособных белорусов надо искать больше за пределами Синеокой. Как говорится в той пословице: рыба ищет, где глубже, а человек, где лучше, то есть там, где больше платят, да еще в разы. Понятное дело, что власти давно озаботились такой нерадостной картиной утечки не самой худшей рабочей силы за кордон. И не нашли ничего лучшего, как ударить по ней декретом №3.

А почему бы нам не пойти, как говаривал в свое время великий Ленин, другим путем? Почему бы не начать выстраивать экономику с высокомеханизированными, автоматизированными рабочими местами, децентрализованную экономику, опирающуюся на частно-собственнические стимулы и инициативы, на современные технологии, экономику с привлекательным инвестиционным климатом? Чтобы к нам приезжали если не из Евросоюза, то хотя бы из Украины или России. Как такую экономику и страну сделать – нам подсказывают те, в чьих деньгах мы нуждаемся. Но это уже совсем другая тема…

АКТУАЛЬНА

# Колькі падаткаў у пенсіённы фонд плацяць прадпрыемствы ў краінах-сябрах ЕАЭС

Беларусь прайграе краінам Еўразійскага эканамічнага саюза па падатковай нагрузцы, заявіла днямі падчас прамой тэлефоннай лініі намеснік міністра па падатках і зборах **Эла Сяліцкая**. Таму ў Беларусі маюць намер разгледзець пытанне падатковых адлічэнняў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Пытанне *«будзе абмяркоўвацца з усіх бакоў»*, падкрэсліла намесніца міністра.

Варта адзначыць, што раней намеснік іншага міністра – фінансаў – Юрый Селіверстаў выказваў меркаванне аб тым, што трэба знізіць некаторыя адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

*– Мяркую, больш мэтазгодная размова аб зніжэнні нагрузкі па ўзносах у ФСАН для прадпрыемстваў*, – заяўляў Селіверстаў. – *У многіх краінах для арганізацый яны нашмат меншыя, што станоўча адбіваецца на канкурэнтаздольнасці суб'ектаў гаспадарання.*

«Народная Воля» паглядзела, колькі падаткаў у пенсіённы фонд плацяць прадпрыемствы ў краінах-сябрах ЕАЭС. Сапраўды, па гэтым паказчыку мы істотна апярэджваем іншых удзельнікаў Еўразійскага эканамічнага саюза:

**Беларусь** – 34%,
**Расія** – 22%,
**Казахстан** – 20%,
**Арменія** – 20%,
**Кыргызстан** – 15%.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

У ТЭМУ

## Зменяцца льготы для айцішнікаў?

Безумоўна, памяншаць падатковыя выплаты прадпрыемстваў у Фонд сацабароны насельніцтва, не прадпрымаючы ніякіх іншых мер, нельга. Сёння ў фондзе і так не хапае сродкаў на выплаты пенсій і сацыяльных дапамог, ужо некалькі гадоў запар у рэспубліканскім бюджэце нават закладваецца адмысловы артыкул выдаткаў на выплаты ў ФСАН, прычым з кожным годам яны павялічваюцца. І таму адна з мер, якая прапануецца, – павысіць для асобных плацельшчыкаў памеры абавязковых страхавых узносаў па пенсіённым страхаванні. Зараз, напрыклад, такія льготы ёсць у айцішнікаў.

– *Усяго за мінулы год аб'ём ільгот па выплаце абавязковых страхавых узносаў, прадастаўленых у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, склаў 646,3 мільёна рублёў. Гэта больш за 4% ад даходаў бюджэту фонду, што паступілі, з якіх 504,1 мільёна рублёў, або 78%, прыходзіліся на льготы, прадастаўленыя рэзідэнтам ПВТ, колькасць якіх пастаянна расце,* – такую статыстыку прыводзіў летам, выступаючы ў парламенце, намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю **Аляксандр Курлыпа.**

Так што, магчыма, у хуткім часе некаторыя льготы для айцішнікаў будуць перагледжаны.

КУЛУАРЫ

Виталий ВОРОНКО:

# «Мне потом сказали, что это, оказывается, любимая песня президента…»

*На днях Александру Лукашенко демонстрировали произведенные в стране специальные виды зимней техники, спортивного инвентаря и музыкальных инструментов. Во время презентации инструментов Лукашенко неожиданно… запел. Ролик, где президент подпевает известному белорусскому баянисту-виртуозу Виталию Воронко песню «Галина», активно комментируют в интернете.*

*«Народная Воля» расспросила Виталия Воронко, как ему удалось спеть дуэтом с Лукашенко и что осталось за кадром.*




– А за кадром практически ничего и не осталось – все, что было, то и показали, – *рассказал* ***Виталий Воронко*** *«Народной Воле»*. – Я, правда, вообще не ожидал, что президент попросит меня что-то спеть. Меня пригласили в первую очередь для того, чтобы презентовать инструмент, сыграть на нем. Я не рассчитывал, что придется петь.

**– То есть куплет из песни про Галину** ***(«Живет, живет в этом доме Галина, да я никак все туда не дойду…»)*** **– был ваш личный экспромт?**

– Это любимая песня моей мамы – ее тоже зовут Галина. Поэтому я ее и спел. Никаких других подтекстов здесь нет.

**– Не удивились, что президент вам так лихо подпевал?**

– Мне это понравилось. Потом только узнал, что это, оказывается, и его любимая песня…

**— Ролик, где вы вместе поете, сейчас пользуется популярностью в интернете…**

– Используя момент, планирую сделать гастрольный тур по Беларуси. Я давно собирался, еще когда сотрудничал с продюсером Владимиром Кубышкиным – у нас есть целый альбом белорусских и русских песен. Но не было возможности. А сейчас, думаю, можно организовать концерты на сцене региональных домов культуры. Я никогда не гастролировал по Беларуси, даже после британского шоу, когда люди, возможно, хотели меня услышать. А сейчас такая возможность есть.

**– Не просили президента поддержать этот тур, как в свое время поступила Ирина Дорофеева?**

– Нет, я хочу, чтобы публика шла на концерты по зову души и сердца. Думаю даже вначале запустить в интернете промоакцию, чтобы заодно узнать, хотят ли люди пойти на мои выступления. К тому же это будет хорошая возможность представить новую группу, она называется «Крейзи дабл», мы год как существуем, но уже с первым треком попали на радио в Детройте, и нас пригласили в Америку.

**– Вы сейчас живете в Беларуси или в России?**

– В Минске. Но много переезжаю. Только что вернулся из США.

**– Но какое-то время вы жили в Москве, или я путаю?**

– Да, целый год. Но вернулся, потому что мне хотелось немного другого направления в музыке. Хотел уйти от юмора и перейти к более серьезному жанру. Так родилась группа «Крейзи дабл».

**– Почему именно вас позвали презентовать для президента белорусские баяны, которые производит молодечненское ООО «Зонта»?**

– Я давно являюсь представителем этой компании. И все время играю на баяне производства «Зонта». Это целый оркестр! Все постоянно удивляются, как такое возможно…

**– Когда Лукашенко вместе с вами пел, вице-премьер Игорь Петришенко, казалось, не знал, что ему делать – то ли петь, то ли танцевать, то ли просто молчать. А министр культуры, краснея, подпевал немного невпопад…**

– Возможно, они просто не знали слов песни. Моя задача была показать инструменты и сыграть, а то, что получилось еще и спеть, – ну, так вышло. В конце концов, я ведь не только музыкант, но еще и певец – пару лет назад закончил консерваторию. И вроде бы неплохо получилось…

**Марина КОКТЫШ.**

ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Виталий Воронко (родился 22.12.1989) – баянист-виртуоз, вокалист, композитор, шоумен. Родился в Барановичах. Закончил музыкальную школу по классу баяна, в 2006 году поступил в музыкальное училище. Еще до поступления в училище Виталий неоднократно становился лауреатом различных конкурсов и фестивалей, будучи студентом дважды был удостоен стипендии Фонда президента Беларуси.*

*Эстрадная карьера Виталия Воронко началась с участия в телевизионном конкурсе «Академия талантов».*

*Следующим важным этапом в творческой карьере музыканта стало участие в польском телеконкурсе «The Voice in Poland».*

Виталий с блеском выиграв в 2014 году конкурс «Заспявай.by».

Кроме этого, Виталий Воронко записал на канале ОНТ две песни на белорусском языке – и обе попали в «Песню года-2014» Беларуси.

Два года назад принял участие в десятом сезоне популярного британского шоу Britain's Got Talent.

РЭБУС

# Каму замінае памяць пра БНР?

*Сталічныя ўлады пакуль не даюць дазвол на тое, каб у цэнтры Мінска была ўсталявана шыльда ў гонар 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Афіцыйная версія – «негатыўныя звароты грамадскасці». «Народная Воля» разбіралася ў сітуацыі.*

Ідэя з'яўлення ў Мінску памятнай шыльды ў гонар 100-годдзя БНР нарадзілася на хвалі святкавання юбілею, калі ўлады ўпершыню за доўгія гады афіцыйна дазволілі святкаванне ўгодкаў абвяшчэння БНР. Свята з народным гуляннем і канцэртам адбылося ля Опернага тэатра і сабрала дзясяткі тысяч чалавек.

Замацаваць поспех было вырашана ўстаноўкай шыльды па мінскім адрасе: Валадарскага, 9. Менавіта тут была абвешчана незалежнасць БНР.

І ўлады быццам бы былі не супраць. Грамадскасць, разумеючы, што нашы чыноўнікі раз-пораз дзейнічаюць па прынцыпе флюгера, вырашыла каваць жалеза, пакуль гарачае. Сродкі на выраб шыльды былі сабраны ў інтэрнэце ў рэкордны тэрмін – за тры гадзіны. Была выраблена бронзавая шыльда і прызначана дата яе ўрачыстага адкрыцця. Аднак пасяджэнне Мінгарвыканкама, на якім павінна было зацвярджацца гэта рашэнне, пастаянна пераносілася.

Прайшло шэсць месяцаў, а справа так і не зрушылася з мёртвай кропкі. Высветліць, на якой стадыі знаходзіцца разгляд пытання, паспрабавалі сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), якія накіравалі ў Мінгарвыканкам адпаведны зварот.




Вось які адказ адтуль прыйшоў:

*«Інфармуем аб тым, што ў адрас Мінгарвыканкама паступіў шэраг зваротаў ад грамадзян Беларусі і прадстаўнікоў грамадскасці з негатыўным стаўленнем да пытання ўстаноўкі памятнай дошкі па вуліцы Валадарскага, 9. Пытанне аб мэтазгоднасці прыняцця рашэння Мінгарвыканкама па ўстаноўцы мемарыяльнай дошкі знаходзіцца на разглядзе».*

У размове з «Народнай Воляй» старшыня БСДП (Грамада) Ігар Барысаў пракаменціраваў такі адказ Мінгарвыканкама. Палітык лічыць, што людзі, якім замінае памяць пра БНР, у Беларусі і сапраўды ёсць:

– Я думаю, што людзі, якія выступаюць супраць установкі ў Мінску гэтай шыльды, сапраўды існуюць. Дапускаю, што і звароты ад іх ёсць. Паказальна, канечне, што Мінгарвыканкам не назваў канкрэтна гэтых людзей ці арганізацыі. Так што я не казаў бы, што гэта міфічныя асобы. У Беларусі безліч праўладных арганізацый, якія выкарыстоўваюцца ў патрэбны момант. Калі камусьці «наверсе» нейкая ініцыятыва не падабаецца, пачынаюць шукаць падставу, каб яе «зарубіць». «Грамадскасць выказваецца супраць» – гэта стандартная фармулёўка. У якасці грамадскасці якраз і выкарыстоўваюцца згаданыя мной арганізацыі.

ЗВАНОК У МІНГАРВЫКАНКАМ

## «Мы не можам назваць прозвішчы…»

«Народная Воля» паспрабавала высветліць, хто канкрэтна выступае супраць таго, каб у Мінску з'явілася шыльда ў гонар 100-годдзя абвяшчэння БНР. Нас цікавілі канкрэтныя прозвішчы.

Для гэтага мы патэлефанавалі намесніцы начальніка галоўнага ўпраўлення Мінгарвыканкама Алене Мохар, якая ўзаемадзейнічае са СМІ. Вось які дыялог у нас атрымаўся.

**– Алена Вацлаваўна, ці ведаеце вы пра зварот грамадзян наконт усталявання ў Мінску шыльды ў гонар 100-годдзя БНР?**

– Так, безумоўна, я пра гэта ведаю.

**– Тады, напэўна, вы ведаеце і пра тое, што ёсць людзі, якія выступаюць супраць гэтага. Яны таксама звярталіся ў Мінгарвыканкам. Не маглі б вы назваць іх прозвішчы?**

– Гэта немагчыма. Ёсць «Закон аб зваротах грамадзян», згодна з якім персанальная інфармацыя заяўніка не разгалошваецца. Мы не можам назваць прозвішчы.

**– Такім чынам, даведацца ў вас, хто гэтыя людзі і чаму яны выступаюць супраць установкі шыльды, немагчыма?**

– Адзінае, што вы можаце зрабіць, дык гэта накіраваць афіцыйны запыт, і мы дадзім інфармацыю наконт таго, колькі такіх зваротаў у нас зарэгістравана. Але без імён і прозвішчаў. Толькі лічбу.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

РАКУРС

## Тысячи белорусских католиков едут на встречу с понтификом

В эти выходные Папа Римский Франциск посещает Литву. В рамках поездки он поучаствует в мероприятиях в Вильнюсе и Каунасе, а в начале следующей недели посетит также Латвию и Эстонию.

*«Разумеется, на мероприятия поедет большая делегация белорусских верующих. От Минско-Могилевской архиепархии в Литву поедут более 700 человек, в целом из страны – более двух с половиной тысяч»,* – рассказал Sputnik пресс-секретарь Конференции католических епископов в Беларуси ксендз **Юрий Санько.**

Возглавлять белорусскую делегацию на мероприятиях будет митрополит Минско-Могилевский **Тадеуш Кондрусевич**, однако отдельных встреч у понтифика не запланировано.

К слову, ксендз Юрий Санько поблагодарил Государственный пограничный комитет за то, что они пошли навстречу в вопросах организации поездки.

ТЭНДЭНЦЫЯ

## Гродзенцы – за мяжу, украінцы і ўзбекі – у Беларусь

*За восем месяцаў гэтага года толькі праз афіцыйна зарэгістраваныя ў Гродне фірмы на заробкі за мяжу з'ехалі 1194 чалавекі. У 2017 годзе такім самым чынам на працу за мяжу з'ехала ў паўтара разу меней гродзенцаў. Афіцыйнай статыстыкі адносна таго, колькі жыхароў Гродзеншчыны з'язджаюць на працу за мяжу самастойна, няма.* Працу, як правіла, гродзенцы знаходзяць найчасцей у суседніх краінах – Польшчы, Літве, Чэхіі, Расіі.

Паралельна з гэтым працэсам павялічваецца прыток эмігрантаў у Гродна. Паводле афіцыйных дадзеных, зараз у вобласці афіцыйна працуюць 729 украінцаў і трохі больш за 100 узбекаў. А ўсяго за дазволам на працу ў Гродзенскай вобласці сёлета звярнуліся звыш 1200 замежных грамадзян. Пераважная большасць з іх цяпер працуе на будаўніцтве Астравецкай АЭС.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЧУЛІ?

## З грошай прыбяруць подпіс Пракаповіча

Нацыянальны банк краіны паведаміў пра змяненні, якія будуць унесены ў дызайн беларускіх банкнот.

Змяненні наступныя:

– выявы архітэктурных збудаванняў на пярэдніх баках мадыфікаваных банкнот будуць прыведзены ў адпаведнасць з актуальным знешнім выглядам з указаннем назвы намаляваных архітэктурных збудаванняў;

– на мадыфікаваных банкнотах будуць выключаны рэквізіт «Старшыня Праўлення» і факсіміле подпісу Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Пракаповіча П.П.;

– у адпаведнасці з новай рэдакцыяй Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі на банкноце наміналам 50 рублёў надпіс «ПЯЦЬДЗЕСЯТ» будзе выпраўлены на «ПЯЦЬДЗЯСЯТ».

Акрамя таго, на банкнотах будзе ўказаны год плануемага выпуску ў абарачэнне: замест «2009» для банкнот наміналамі 5 і 10 рублёў – «2019», для банкнот наміналамі 20 і 50 рублёў – «2020».

